# Голас Радзімы

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17 000 рублёў.

25 САКАВІКА 1999 ГОДА
№ 12 (2622)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## Дзмітрый СУРСКІ: «ДЫЗАЙН — ВЫНІК РЫНКАВАЙ ЭКАНОМІКІ»

*Тэма сённяшняй гутаркі — дызайн, яго значэнне для грамадства.*

*Наш суразмоўца — Дзмітрый Сурскі, прэзідэнт Беларускага саюза дызайнераў, член Саюза мастакоў. Ён аўтар 12-ці прамысловых узораў і вынаходстваў. У дызайн Дзмітрый Сурскі "ўехаў" на "джынсавым аўтамабілі". Ягоная дыпломная работа — створаны ім дзеючы аўтамабіль з тэнтавым пакрыццём, якое мацуецца пры дапамозе шнуроўкі, спраўжак да каркаса знутры.*

**— Чалавек можа не цікавіцца мастацтвам — не хадзіць на выставы, у тэатр. Але ж дызайн — асобая яго частка, якая кранае кожнага ў побыце (абсталяванне памяшканняў, бытавая тэхніка, тэлебачанне з ягонай бясконцай рэкламай), на вуліцах горада (рэкламныя шчыты, плакаты) і гэтак далей. Распаўсюджанасць дызайна дыктуе пэўны яго ўзровень. Які ён на Беларусі, на ваш погляд!**

— Я лічу, што ў нашай краіне лёс дызайна не адбыўся. Канешне, ёсць унікальныя, адданыя сваёй справе людзі, якія і ў сённяшніх умовах робяць нешта цікавае. На жаль, у дзяржаўным маштабе дызайн не ўвайшоў у практыку куль-



*Д. СУРСКІ, Т. ГАРДАШНІКАВА. Хлеб — усяму галава, 1988.*

туры. У савецкія часы пры буйных прадпрыемствах існавалі канструктарскія бюро, інстытуты, дзе працавалі спецыялісты і спрабавалі нешта рабіць. Канешне, і тады было цяжка ажыццявіць новае, дазвалялася толькі тое, што супадала з пануючай ідэалогіяй.

Я думаю: дызайн — прадукт, вынік рынкавай эканомікі. Пакуль у нашай краіне яна не склалася ў тым выглядзе, як хацелася б. Мы на нейкім пераходным этапе. Таму дызайнерам асабліва складана.

Нават у часы перабудовы існавала аб'яднанне, якое давала заказы. Цяпер жа галерэя працуе з мастаком, прадзюсер — з акцёрам, але ж ніхто на Беларусі не займаецца распаўсюджваннем дызайнерскіх праектаў. Не існуе адпрацаванага механізма іх прасоўвання на рынак паслуг. Канешне, сёння нялёгкі час для эканомікі. Але ж мы ўсе спадзяемся, што гэта не назаўсёды. А без дызайна яна не зможа развівацца.

Мяне вельмі засмучае, што добрыя спецыялісты пакідаюць дызайн і ідуць у паралельныя жанры. Адны застаюцца ў мастацтве, займаюцца жывапісам, керамікай. І чалавек губляе кваліфікацыю.

**— Чаму Беларускі саюз дызайнераў не возьмецца за гэтую справу!**

— Наша арганізацыя грамадская і добраахвотная. Саюз дызайнераў праводзіць пэўныя мерапрыемствы ў сваёй галіне. У нас ёсць студыі, творчыя майстэрні, заснавальнік якіх — саюз ці асобныя людзі. У асноўным мы выконваем праектныя работы ў паліграфіі і рэкламе. Іншых заказаў проста няма (хоць мы гатовы іх прыняць). Я ведаю, што ў буйных мінскіх прадпрыемстваў даволі вялікія рэкламныя бюджэты. За такія грошы магчыма зрабіць дызайнерскія распрацоўкі — падумаць над формай, прапанаваць новыя функцыянальныя магчымасці. Але ж укараненне дызайна

— гэта таксама немалыя грошы. Патрабуецца перабудова вытворчасці, пошук новых тэхналогій.

**— Як вы ацэньваеце рэкламу на вуліцах Мінска!**

— У горадзе амаль няма творчай рэкламы. Тыражуюцца замежныя брэнды кампаній "West", "Malboro" і гэтак далей.

**— Не хапае ідэй!**

— Яны ёсць. І лепшым таму доказам стала выстава "Беларускі друкаваны плакат", якая прайшла нядаўна ў Мінску. На ёй дэманстраваўся цудоўны спектр ідэй. Некаторым з іх, дарэчы, ужо шмат гадоў. Але іх можна тыражаваць і сёння, бо яны не згубілі сваёй актуальнасці, дасціпнасці.

**— Чаму ж тады не заказваюць рэкламу нашым мастакам-афарміцелям!**

— Гэта палітыка фірм. Некалі зацверджаныя карпаратыўныя рашэнні дакладна адпрацоўваюцца і тыражуюцца.

**— Мне здаецца, гарадскія ўлады павінны быць зацікаўленымі і палітычна, і эканамічна ў творчай рэкламе, створанай мясцовымі мастакамі...**

— Магчыма, у некаторым сэнсе ўзняла праблему і ініцыіравала яе рашэнне ўсё тая ж выстава плаката. Цяпер абмяркоўваецца пытанне аб тым, каб у горадзе з'явілася сацыяльная рэклама. Пасля выставы стала відавочна, што агульначалавечыя тэмы добра раскрываюцца нашымі мастакамі. Ёсць шмат цікавых работ. Форму рэкламы можна шукаць. Хай сабе з аднаго боку будзе рэклама цыгарэт, а з другога — прапаганда здаровага ладу жыцця.

**— Здаецца, у горадзе, акрамя шчытоў, што тычацца бяспечнасці дарожнага руху, сацыяльнай рэкламы пакуль няма.**

— Так. Праўда, ёсць антыспідаўская рэклама. Мабыць, на яе выдзелены пэўныя грошы. Але ж я не лічу яе вельмі ўдалай.

**— Кожны з нас бачыць ролікі беларускага тэлевізійнага канала цяпер і замест рэкламы першага расійскага канала. Што вы скажаце наконт афармлення нашага нацыянальнага канала, ягонай рэкламы!**

— Чамусьці лічыцца, што беларускасць — гэта толькі народныя рамёствы. Іх бясконцае тыражаванне на тэлебачанні засмучае. На самай справе Беларусь валодае інтэлектуальным патэнцыялам у навуцы, мастацтве. На жаль, часта мы абмяжоўваем сябе нечым адным. Мабыць, гэта праблема нашай ментальнасці. Дарэчы, калісьці ў саюз дызайнераў звярталіся наконт распрацоўкі фірмовага стылю беларускага тэлебачання. Былі падрыхтаваны некаторыя праекты. Але ж дыялога не атрымалася.

**— Давайце вернемся да выставы плаката. Здаецца, у Мінску не бачылі яе даўно...**

— Апошні раз выстава плаката была ў Мінску больш 10 гадоў таму. Сёлета была прадстаўлена калекцыя плакатаў Саюза дызайнераў, сабраная Сяргеем Яўлампіевым, Міхаілам Баразной. Аўтары, якіх захапіла ідэя выставы, самі прынеслі плакаты. Некаторым з іх больш за 40 гадоў. Гэта каштоўны і цікавы матэрыял. У першую чаргу мы арыентаваліся на пошук плакатаў, якія ў свой час былі апублікаваны ў прэстыжных выданнях, сталі фіналістамі конкурсаў плаката і атрымалі там узнагароды. Лічу, што беларускія

(Заканчэнне на 4-й стар.).

КОНКУРС



Гэтая дзяўчына, Людміла Маснева, была прызнана самай чароўнай сцюардэсай Беларусі.

У авіякампаніі "Белавія" працуе 160 бортправаднікоў, так што, па сусветных мерках, канкурэнцыя не вельмі вялікая. Але ўсё роўна прыемна.

Конкурс "Міс нябеснае зачараванне" правяло кіраўніцтва "Белавія". Само дзейства прайшло хутчэй у духу "А ну, дзяўчаты!" Ацэньваліся ў першую чаргу інтэлект, пачуццё гумару і гаспадарлівасць, а выразныя формы і

3 стар.

АКТУАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

## І АГНІ ПАРТАВЫЯ ЛІБАВЫ...

***Па-сапраўднаму з гэтай праблемай Беларусь сутыкнулася стагоддзе таму, калі ў пошуках лепшай долі ў Расію, краіны Заходняй Еўропы і Лацінскай Амерыкі накіраваліся тысячы нашых суайчыннікаў. Дзеля справядлівасці, у наш час знешняя працоўная міграцыя яшчэ не сталася масавай з'явай. Тым не менш гісторыя можа паўтарыцца. Прынамсі па ацэнках Камітэта па міграцыі, у пэўных варунках колькасць беларусаў, якія пачнуць шукаць магчымыя варыянты працаўладкавання за мяжой, дасягне 1 мільёна чалавек.***

3 стар.

## *Тыдзень. Фотафакты. Хроніка падзей.*

**АФІЦЫЙНА**

### БЕЛАРУСЬ ЗАСТАЕЦЦА ПРЫХІЛЬНІЦАЙ РАЗВІЦЦЯ ДЭМАКРАТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА

Дзяржаўны Дэпартамент ЗША прыняў заяву з прычыны адміністрацыйнага затрымання Віктара Ганчара, у якой таксама даюцца ацэнкі легітымнасці праведзенага ў Беларусі ў 1996 годзе ўсенароднага рэферэндуму.

У сувязі з гэтым Міністэрства замежных спраў рэспублікі распаўсюдзіла паведамленне, у якім адзначаецца, што вынікі рэферэндуму з'яўляюцца волевыяўленнем беларускага народа, рэалізацыяй яго суверэннага права самастойна вызначаць канстытуцыйны лад сваёй дзяржавы. Іх легітымнасць не выклікае сумнення і не патрабуе пацвярджэння з боку іншых дзяржаў.

"Дзейнасць Віктара Ганчара і членаў незаконна створанай "цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" супярэчыць дзеючаму заканадаўству беларускай дзяржавы, правакуе дэстабілізацыю грамадска-палітычнай абстаноўкі. Бачачы ў дзеяннях В. Ганчара доказы правапарушэння, праваахоўныя органы вынеслі яму афіцыйнае папярэджанне і растлумачылі, што такая дзейнасць у далейшым можа выклікаць прыцягненне да адказнасці. У адпаведнасці з пастановай суддзі за ўдзел у несанкцыянаваным сходзе членаў названай "камісіі" і за непадпарадкаванне законным патрабаванням работнікаў міліцыі В. Ганчар быў падвергнуты адміністрацыйнаму арышту на 10 сутак" — адзначаецца ў паведамленні МЗС.

Міністэрства замежных спраў лічыць, што распальванне страсцей вакол дзейнасці так званага "цэнтрвыбаркама" на чале з В. Ганчаром не садзейнічае развіццю раўнапраўнага і канструктыўнага дыялога з Беларуссю. Наша рэспубліка застаецца прыхільніцай курсу на развіццё дэмакратыі ў беларускім грамадстве і адкрытай да супрацоўніцтва з зацікаўленымі міжнароднымі арганізацыямі.

**БелТА.**

**ВЕРСІІ**

### АДЗІНУЮ ВАЛЮТУ ПЛАНУЕЦЦА ЎВОДЗІЦЬ У ТРЫ ЭТАПЫ?..

● **Ігар ШЧУЧЭНКА.**

У банкаўскіх колах загаварылі аб тым, што ў рэспубліцы ўжо з'явілася канцэпцыя аб увядзенні адзінай валюты Беларусі і Расіі. Паколькі ніхто са спецыялістаў камерцыйных устаноў афіцыйна падобнага дакумента не атрымліваў, то гэтая навіна, мабыць, магла б і трапіць у разрад так званых чутак. Аднак, зыходзячы з Дэкларацыі беларускага і расійскага прэзідэнтаў "Аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі" ад 25 снежня дакладна вядома: ішла размова аб тым, што да канца першай паловы гэтага года павінны быць уніфікаваныя валютнае рэгуляванне і грашова-крэдытная сістэма дзвюх краін, а таксама ажыццёўлены пераход да адзінай валюты. Да таго ж усім добра вядомы той факт, што беларускі бок заўсёды адрозніваўся ад усіх сваіх партнёраў тым, што ідзе да канца па прынятых ініцыятывах. Такім чынам, цалкам верагодна, што спецыялісты галоўнай фінансавай установы рэспублікі ўжо маглі да гэтага часу распрацаваць такі дакумент.

Каб атрымаць дакладную інфармацыю, мы звярнуліся па тлумачэнні ва ўпраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі. Там нам сапраўды пацвердзілі, што гэтай фінансавай установай распрацавана "Канцэпцыя ўвядзення адзінай валюты, фарміраванне адзінага эмісійнага цэнтра і агульнай банкаўскай сістэмы Саюза Беларусі і Расіі". Праўда, ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка паведамілі, што гэты дакумент з'яўляецца чарнавым варыянтам і, магчыма, будзе яшчэ дапрацоўвацца.

Тым не менш, "Звяздзе" ўдалося атрымаць пэўную інфармацыю па распрацаванай канцэпцыі з добра інфармаваных крыніц, з якой, мяркуем, чытачам будзе цікава азнаёміцца. У прыватнасці, рэалізацыя дамоўленасці прэзідэнтаў дзвюх краін, згодна з канцэпцыяй, будзе праходзіць у тры этапы. Напрыклад, у І квартале гэтага года плануецца часткова уніфікаваць грашова-крэдытную палітыку Беларусі і Расіі, стварыць агульны рынак капіталу, дасягнуць рэальнай узаемнай канверсоўнасці валют, сфарміраваць юрыдычную аснову для уніфікацыі валютнага рэгулявання. Другі этап прадугледжвае уніфікацыю валютнага рэгулявання і грашова-крэдытнай сістэмы дзвюх дзяржаў, а таксама ўвядзенне адзінай валюты. На трэцім этапе (ІІ палова 1999 года) мяркуецца стварыць адзіны эмісійны цэнтр і завяршыць працэс увядзення адзінай валюты. Дарэчы, спецыялісты, якія працавалі над гэтым дакументам, дапускаюць, што ўвядзенне новага саюзнага рубля магчымае з курсавымі суадносінамі яго да расійскага як 1:1. Дададзім да ўсяго вышэйсказанага, што распрацоўшчыкі канцэпцыі плануюць ужо ў гэтым месяцы прадставіць Вышэйшаму Савету Саюза Беларусі і Расіі прапановы па паэтапнаму ўвядзенню на працягу 1999 года ў Саюзе Беларусі і Расіі адзінай валюты і фарміраванню адзінага эмісійнага цэнтра.

"Звязда".





У спартыўным комплексе СКА ва Уруччы ўпершыню ў нашай краіне праведзены чэмпіянат па акадэмічнай грэблі на трэнажорах, у якім прынялі ўдзел каля двухсот грабцоў рэспублікі. Трэнажоры аснашчаны камп'ютэрнай праграмай, што дазваляе максімальна наблізіць спартсменаў і гледачоў да рэальнага адчування дыстанцыі.

*На здымках: у час спаборніцтваў; "хварэем" за сваіх.*

*Фотахроніка БелТА.*

● **РЭГІСТРАЦЫЯ КАНДЫДАТАЎ ЗАВЕРШАНА.** Як паведамілі ў Цэнтральнай камісіі па правядзенню выбараў і рэферэндумаў, завяршылася рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Усяго зарэгістравана 26 883 кандыдаты ў дэпутаты на 24 564 вакантныя дэпутацкія мандаты.

Самая вялікая канкурэнцыя кандыдатаў назіраецца ў Мінску, дзе на 52 мандаты дэпутата гарсавета прэтэндуе 306 кандыдатаў, меншая канкурэнцыя ў іншыя гарадскія і абласныя Советы, у пасялковых і сельскіх акругах на адно месца прыпадае практычна па аднаму кандыдату. Аднак такіх акруг, дзе зусім не было б кандыдатаў, практычна няма, бо, згодна з законам, у выпадку, калі хто-небудзь здыме сваю кандыдатуру, і ў выніку ў акрузе нікога не застанецца, там можна яшчэ да 14 сакавіка правадзіць дадатковае вылучэнне кандыдатаў.

Зараз жа кандыдаты ў дэпутаты пачынаюць разгортваць сваю агітацыйную кампанію.

● **СТВОРАНЫ САЮЗ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ-ХРЫСЦІЯН.** У Мінску праведзены першы з'езд беларускай асацыяцыі "Хрысціянская дзелавая ініцыятыва". Заснавальнікі асацыяцыі — кіраўнікі 14 прыватных прадпрыемстваў з Брэста, Кобрына, Гомеля, Магілёва, Барысава, Гродна, Пінска, Баранавіч і Мінска.

Галоўная задача асацыяцыі — садзейнічаць прывіццю хрысціянскай маральнай годнасці сярод прадпрымальнікаў, што павінна прывесці да паважлівых адносін да ўлады, партнёраў, да сумленнага вядзення бізнесу.

Члены асацыяцыі збіраюцца актыўна супрацоўнічаць з хрысціянамі-бізнесменамі ўсіх краін Еўропы і свету. Гэта, у сваю чаргу, павінна прывесці да фарміравання пазітыўнага вобраза Беларусі ў замежных дзелавых колах і прытоку інвестыцый.

Па словах старшыні асацыяцыі Георгія Дзмітрука, ужо ў хуткім часе гэтая арганізацыя будзе налічваць каля тысячы хрысціян-прадпрымальнікаў з самых розных гарадоў Беларусі.

Ідэя стварэння саюза прадпрымальнікаў-хрысціян была горача падтрымана рухам хрысціян-бізнесменаў Заходняй Еўропы. Аб гэтым заявіў на з'ездзе прэзідэнт Еўрапейскага фонду хрысціян-бізнесменаў "Еўрапартнёры" Джым Джонстан. Зараз кіраўніцтвам фонду разглядаюцца пытанні аказання Беларусі гуманітарнай дапамогі, якая будзе накіроўвацца па лініі асацыяцыі.

● **КАНФІСКАВАНЫ ДЗВЕ БУЙНЫЯ ПАРТЫІ ФАЛЬШЫВАК.** У ходзе спецаперацыі супрацоўнікі ўпраўлення па арганізаванай злачыннасці і карупцыі па Гомельскай вобласці і АМОНа УУС вобласці затрымалі ў Жодзіне шасцярых "каўказцаў" са 100 тысячамі фальшывых долараў ЗША.

Тэхналогія вырабу псеўдазялёных вельмі высокая: банкноты маюць вадзяныя знакі, металізаваную стужку і іншыя элементы абароны. Фальшываманетчыкі былі арыштаваны ў гаражна-будаўнічым кааператыве "Металург" якраз у момант абмену сваіх "грошай" на 40 тысяч сапраўдных долараў. Дарэчы, канфіскаваная сума — рэкорд у маштабах Беларусі.

Нядаўна гомельская УАЗ выкрыла яшчэ адну групу з ілжэвалютай. У прыватнай цыганскай хаце ў Гомелі затрыманы двое непрацуючых мужчын і адна жанчына. Пры іх было знойдзена 5 900 "фальшывак" (па папярэдняй інфармацыі, яны выраблены ва Украіне). Акрамя таго, міліцыя выявіла 200 грамаў марыхуаны і 50 грамаў гашышу.

**НА ШЛЯХУ ДА ЧЫТАЧА**

## «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ»

***Уступаючы ў Год Пушкіна... Гэтыя словы, якія з'яўляюцца своеасаблівым духоўным і творчым дэвізам сёлетняга сусветнага гуманітарнага накірунку, вынесены на вокладку першага нумара "Кан-***

Камісія імкнулася задаволіць просьбу ўсіх навучальных устаноў Мінскай губерні асігнаваць сродкі на набыццё твораў Пушкіна і яго партрэтаў для раздачы навучэнцам, таму што, як высветлілася, "вучні не знаёмы з партрэтамі Пушкіна і ў вучнёўскай бібліятэцы няма твораў гэтага пісьменніка". Было пастаўлена таксама пытанне пра адкрыццё ў Мінску Публічнай бібліятэкі імя Пушкіна, "каб тым самым назаўсёды захаваць у памяці народа імя вялікага рускага паэта", бібліятэку, у якой "інтэлігентныя жыхары маглі б прачытаць газету або кнігу, ажыццявіць такім чынам патрэбы для адукаванага чалавека ў такой ступені надзённай, як адзенне і ежа". Бібліятэку сапраўды адкрылі, але толькі 25 снежня 1900 года.

26 мая 1899 года ў памяшканні Мінскага гарадскога тэатра (цяпер Беларускі драматычны тэатр імя Янкі Купалы) адбыўся святочны вечар. Праграма яго захавалася ў Нацыянальным архіве Беларусі. З паведамлення "Минского листка" вядома, што надзвычайнае ўражанне зрабіла чытанне верша М. Лермантава "Смерць паэта", асабліва папулярнага сярод перадавой беларускай інтэлігенцыі. Калі на святочным пасяджэнні прагучалі словы "Погиб поэт — невольник чести...", у зале пачаліся бурныя апладысменты і пачуліся воклічы "біс".

Звесткі пра святкаванне пушкінскага юбілею паступалі нават з самых глухіх гарадоў. Той жа

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Дзмітрый СУРСКІ: «ДЫЗАЙН — ВЫНІК РЫНКАВАЙ ЭКАНОМІКІ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

мастакі наогул выглядаюць на сусветных конкурсах плаката не горшым чынам. Выстава атрымалася цікавай. Яна была спробай заявіць як пра плакат, Беларускі саюз дызайнераў, так і пра яго магчымасці. У нас ёсць ідэя зрабіць з калекцыі плаката выставу-салон.

**— Скажыце, калі ласка, якія магчымасці Саюза дызайнераў вы маеце на ўвазе?**

— Калісьці было зроблена шмат дызайнерскіх напрацовак для прадпрыемстваў. Яны захаваліся ў маштабных макетах, ілюстрацыях. Ёсць ідэя сабраць гэты матэрыял. Можна падрыхтаваць з яго выкарыстаннем цікавую экспазіцыю.

Беларускі саюз дызайнераў здзяйсняе таксама новы праект "Знак". Ён уключае выданне ілюстраванага каталога ў паліграфічнай версіі і на кампакт-дысках, а таксама выставу знакаў і лагатыпаў беларускіх аўтараў, якая плануецца як яркае дынамічнае шоу.

Гэта першы ў айчыннай гісторыі праект, што прадставіць анталогію знакавай культуры Беларусі. У ім удзельнічаюць прафесійныя распрацоўшчыкі, дызайн-студыі, рэкламныя агенцтвы і студэнты мастацкіх навучальных устаноў рэспублікі. Мы маем больш за 400 аўтарскіх работ, выкананых за апошнія 20 гадоў. Гэты унікальны матэрыял сістэматызаваны і пераведзены ў электронную форму.

На падрыхтоўку праекта вылучана Дзяржаўная стыпендыя Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Часткова ён фінансуецца Беларускай канфедэрацыяй творчых саюзаў і культурных фондаў.

**— На каго разлічаны гэты праект?**

— Ён будзе цікавы вытворцам, што заказваюць знакі для сваіх тавараў і паслуг, спажыўцам, якім неабходна арыентавацца ў складаным знакавым асяроддзі, патэнтным і інфармацыйным бюро.

**— Гэта камерцыйны праект?**

— Не. Хутчэй гэта культурная місія, накіраваная на прапаганду нацыянальнага графічнага дызайна. Для ўсіх удзельнікаў важны сам факт публікацыі знакаў. Гэта павінна садзейнічаць абароне аўтарскіх правоў і мець вялікае інфармацыйнае значэнне.

Гутарыла **Алена СПАСЮК.**




*А. КІТАЕВА. Казімір Малевіч, 1989.*




*Т. ГАРДАШНІКАВА, Д. СУРСКІ. "Справа №", 1989.*




*У. ЦЭСЛЕР, С. ВОЙЧАНКА. Jazz tour, 1998.*

ПОСТАЦІ СЛАВУТЫХ ПРОДКАЎ

# «ЗЛАТОУСТ, ПАЧЕ ВСЕХ

**У гісторыі народаў нярэдкія выпадкі, калі доўгі час значнасць пэўных асоб застаецца неасэнсаванай. Але праходзіць час, мяняюцца абставіны, і іх імёны становяцца гонарам народа. Да ліку такіх асоб адносіцца вядомы дзеяч XII стагоддзя "Златоуст, паче всех воссиявший на Руси", епіскап Тураўскага княства Кірыла.**

**Валерый СЯЛІЦКІ**, *старшыня абласнога Савета дэпутатаў, прэзідэнт таварыства Кірылы Тураўскага.*

КІРЫЛА Тураўскі ўсё сваё жыццё правёў на беларускай зямлі, уплыў яго думак адчувалі нашы далёкія продкі. Ён быў адным з тых вялікіх дзеячаў, якія закладвалі асновы беларускай культуры, беларускага менталітэта. І наша задача — аддаць даніну яго памяці, зрабіць яго спадчыну агульным здабыткам.

Пра жыццё самога Кірылы Тураўскага вядома нямнога. Мяркуецца, што ён нарадзіўся ў 1113 годзе ў Тураве, вырас у багатай сям'і, атрымаў выдатную адукацыю, пайшоў у манастыр, але затым, "на большие подвиги желая", пакінуў манаства і пайшоў у "столп", дзе займаўся літаратурнай дзейнасцю.

Атрымаўшы сан епіскапа ў 1169 годзе, ён аказваецца ў гушчыні вострай палітычнай барацьбы, што знаходзіць адлюстраванне ў многіх працах. Пра дату смерці епіскапа існуюць розныя меркаванні: называюць і 1182, і 1186, і нават 1188 гады. Дакладная колькасць створаных мысліцелем прац невядомая, бо разам з арыгінальнымі творамі існуюць і падробкі.

Да гэтага часу спадчына Златауста даследавана далёка не поўнасцю. Патрабуюць вывучэння яго філасофскія, эстэтычныя, педагагічныя, сацыяльна-палітычныя погляды.

Для прыцягнення навуковай грамадскасці да прапаганды спадчыны славутага земляка ў 1993 годзе было створана наша Таварыства Кірылы Тураўскага. За пяць гадоў актывісты таварыства зрабілі нямала. Галоўным лічым правядзенне як міжнародных, так і рэспубліканскіх навуковых канферэнцый з удзелам прадстаўнікоў Расіі, Украіны, Польшчы. Першая з іх "Спадчына Кірылы Тураўскага і сучаснае грамадска-культурнае жыццё" адбылася ў 1994 годзе.

Але гэта быў толькі першы крок. У 1996 годзе таварыства выдала брашуру "Кірыла Тураўскі. Бібліяграфічны даведнік", у якой сабрана інфармацыя не толькі аб творах Златауста, але і пералік матэрыялаў аб ім і яго спадчыне.

У 1995 годзе, улічваючы вялікую цікавасць, праяўленую да спадчыны вялікага тураўчаніна, мы правялі чарговую канферэнцыю: "Адзінства ўсходнеславянскіх народаў: мінулае, сучаснасць, перспектывы".

Для пашырэння творчай спадчыны Златауста актывісты таварыства падрыхтавалі шэраг брашур. У іх ліку брашуры доктара філалагічных навук, дырэктара Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў Расійскай акадэміі навук Ю. Лабынцава "Воссиявший нам на Руси" і кандыдата гістарычных навук М. Абраменка "Кірыла Тураўскі (праблема аўтарства "Слова аб палку Ігаравым")". Падрыхтаваны і апублікаваны два выпускі альманаха "Кірыла Тураўскі. Выбраныя творы", якія дазваляюць студэнтам і навучэнцам знаёміцца з творчасцю Кірылы Тураўскага па арыгіналах.

Улічваючы вялікае значэнне спадчыны Златауста не толькі для беларусаў, але і для іншых славянскіх народаў, таварыствам былі праведзены яшчэ дзве навуковыя канферэнцыі: "Славянскія народы і іх культура ў сучасным свеце" (1997 год) і міжнародная маладзёжная канферэнцыя "Усходнеславянскае адзінства ў мінулым, сучаснасці, будучым" (1998 год). Такую работу мяркуем працягваць і надалей.

Праўленне таварыства дабілася рашэння шэрага няпростых праблем. Па нашай ініцыятыве быў выраблены і ўстаноўлены ў Тураве велічны помнік Златаусту, які стаў своеасаблівым цэнтрам правядзення мерапрыемстваў, прысвечаных мысліцелю. Штогод 11 мая ў Тураве адзначаецца Дзень памяці вялікага земляка. Удзел

БЕЛАСТОЧЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

# І ЎПАЛА НАСЕННЕ З

***Апавяданні пісьменніцы Міры Лукшы вельмі роднасныя славутай натуралістычнай школе XIX—XX стагоддзяў, якая дала свету "Чалавечую камедыю" Анарэ дэ Бальзака, "Вечары на хутары бліз Дзіканькі", "Старасвецкія памешчыкі", "Пецярбургскія аповесці" М. Гогаля, знакамітыя ляскоўскія цыклы, чэхаўскія празаічныя мініяцюры, раннія апавяданні пра "патаемнае" М. Гарэцкага, маркесаўскія рэчы, асабліва "Сто гадоў адзіноцтва".***

**Алена ЯСКЕВІЧ**, *кандыдат філалагічных навук.*

ЗДАЕЦЦА, незвычайная дабрыня, спагадлівасць і тактоўнасць голасу аўтара знайшлі свой плённы працяг на беларускай, беластоцкай глебе. І цяжка сказаць, ці антычнай мудрасцю, ці чулай чэхаўскай дабрынёй прасякнуты такі праграмны для аўтаркі верш "Не кажыце Спарце...":

Не кажыце Спарце,
прахожыя,
не кажыце,
што я тут ляжу,
яе сын,
забіты на вайне.
І не выйграў я,
і не забілі
ворагі мае
мяне.
Не збярог сябе
я,
а ратаваць хацеў
усіх!
Не кідайце мне
ні слязы,
ні каменя,
ні слова.
Хай бы
і не было мяне
сярод барацьбітоў,
што нарадзіліся
для справы, для слова,
для славы.

Спрадвечная тэма любові да чалавека, шчырае імкненне дапамагчы яму, здаецца, у самай бязвыхаднай сітуацыі родніць героя Міры Лукшы з св. Іаанам Багасловам, знакамітым апосталам хрысціянскай любові. Напрыклад, Федзік з аднайменнага апавядання (зб. "Дзікі птах верабей" Беласток, 1992) напачатку здаецца ледзь не якімсьці тыпам "маленькага чалавека": "Школы ў горадзе не кончыў, плакаў па начах у інтэрнаце і падчас практыкі на фабрыцы, а пілавінкі са станка вінаваты былі ў тым, што яго вочы чырванелі. Федзікава сэрца трапятала, калі даходзіў пах мокрае мяты на далёкім ветры з-пад Нарвы, пах сытага торфу, сітніку і трысця на падрэчках. Хутка бег са станцыі, у бок, дзе ў цемнаце, пад гарызонтам, над якім удзень сінеў зубчаты бераг Белавежскай пушчы, глыбока пабрэхвалі сабакі. Пазнаваў голас сваіх, якія нудна адклікаліся ад суседскіх ці сумна падвывалі на полі, прывязаныя да слупка, пільнуючы жыта ці рэпу ад дзікоў".

Якая даверлівая шчырасць і адначасова мудрая сталасць пачуцця!.. І мы не ведаем, пра каго больш гэтыя радкі: пра прыроду ці пра ўзаемаадносіны людзей. Ствараецца адчуванне, што час ад часу пісьменніца звяртаецца да прыроды, каб набрацца з яе адвечных крыніц чысціні і трапяткой чалавечнасці.

...І гэты мройны подых мясцовага, не рэальны, а нейкі падсвядомы, бы ў трызненні, робіць постаць героя манументальнай, бо ў непрыманні здрады роднаму герой Міры Лукшы тоесны лірычнаму герою Уладзіміра Караткевіча са зборніка "Матчына душа":

Вы, што маці душу забылі,
Без яе пажадалі пражыць,
Што вы варты
без гэтай магілы,
Без каліны на роднай мяжы?
Павяртайцеся!
Вецер мацнее!
Маці кліча, кветка заве!

Безумоўна, да ліку лепшых празаічных твораў пісьменніцы варта аднесці апавяданне "Жанчына з хвораю рукою" (Выспа, Беласток, 1994).

У гэтым творы ўлюбёная аўтаркаю тэма любові да ўсяго жывога знаходзіць своеасаблівае развіццё ў таямніцы ўзаемаадносін чалавека з "братамі нашымі меншымі". У "Пасланні ап. Паўла да рымлянаў" гаворыцца: "...усё стварэнне разам стогне і разам трудніцца ў болю аж дагэтуль, бо, рупліва выглядаючы, стварэнцы спадзяюцца аб'яўлення сыноў Божых". Трагічная гісторыя смерці "вялікага жоўтага сабакі Арэшкі з гнойнымі чырвонымі вачыма" на хворых руках састарэлай жанчыны Адэлі ўражвае незвычайнай даверлівай еднасцю, якая ўсталёўваецца паміж чалавекам і жывёлай, як трапяткім, засяроджаным поглядам да нас, чытачоў, нібы яна, Арэшка, развітваючыся з намі на мяжы жыцця і смерці, хоча паведаміць нам нешта патаемнае і пра хуткую, наступную за ёю, смерць гаспадыні, і наш усеагульны боль — занядбанне бацькоўскай і дзедаўскай зямлі.

Творчасць пісьменніцы — сапраўдная лабараторыя нялёгкіх перамог і творчых пакут-знаходак, дзе ў муках і сумненнях нараджаецца кожная старонка, кожны наступны радок.

У сваёй стылёвай практыцы кожны беларускамоўны пісьменнік сустракаецца з дзвюма цяжкасцямі. З аднаго боку, пласт вясковага жыцця, традыцыйна, вядома, зляжалы ўжо і багаты; з другога — пісьменніца захоплівае ў вір сваіх твораў многія сферы жыцця (асабліва ў паэзіі), далёкія ад сялянскіх, нетрадыцыйныя, дзе трэба было, па сутнасці, ствараць стылі.

І трэба сказаць, што пісьменніцы ў большасці стае таленту, каб так напісаць, так падслухаць таямніцу слоў, каб пры іх злучэнні атрымаўся стыль, які перайшоў у мову, так загаварылі ўсе. М. Лукша мае шчаслівы дар адчування і ўдалага ўвядзення ў літаратурную мову роднага дыялектнага слова. Дарэчы, большасць слоў некалі былі дыялектнымі, а зараз сталі літаратурнай нормай. Многія даследчыкі папракаюць беластоцкіх аўтараў, што яны нібыта злоўжываюць дыялектнымі словамі. Але, відаць, ва ўмовах неабходнасці зачэрпнуць усё багацце народнага слова і ўвесці ўсё лепшае не толькі з цэнтральных гаворак, а з усіх куткоў, дзе гучыць беларускае слова, у літаратурную мову, такое выкарыстанне дыялектнага матэрыялу адзіна правільнае (хаця з-за гэтага многія літаратары часамі выглядаюць нявыгадна косназыка і правінцыяльна). І мы, жыхары карэннай Беларусі, павінны быць асабліва ўдзячныя беластоцкім літаратарам, якія рынуліся, не звяртаючы ўвагі на нераспрацаванасць і пэўную закасцянеласць моватворчай палітыкі ў айчыннай філалогіі адносна масіва беластоцка-падляшскіх і іншых памежных этнічнароднасных гаворак Белай Русі, ахвярна ўзяўшы на сябе ўздыманне такога цаліннага дзірвана, дзе цяжка здабыць



# ВОССИЯВШИЙ НА РУСИ»

у святах прымаюць царкоўныя іерархі, у ліку якіх — Мітрапаліт Беларусі Філарэт, епіскапы — Гомельскі і Жлобінскі Арыстарх, Мазырскі і Тураўскі Пётр і іншыя.

У час правядзення канферэнцый іх удзельнікі выязджаюць у Тураў. Яны раскрываюць значэнне дзейнасці свяціцеля для фарміравання славянскай культуры і яе састаўной часткі — беларускай, яго ўклад у фарміраванне беларускага нацыянальнага менталітэта.

Таварыствам былі набыты карціны, створаныя мастакамі Гомельшчыны, на якіх адлюстраваны тураўскія краявіды, памятныя мясціны, звязаныя з дзейнасцю Кірылы Тураўскага. Гэтыя карціны былі перададзены ў дар Тураўскаму музею.

Варта асобна падкрэсліць, што ў горадзе праводзяцца масавыя мерапрыемствы, звязаныя з творчай спадчынай Златауста: "круглыя сталы", сустрэчы інтэлігенцыі, лекцыі і да т. п. У бібліятэках горада і вобласці наладжваюцца выставы літаратурных твораў, якія раскрываюць багацце спадчыны свяціцеля. Гэтыя выставы карыстаюцца вялікай папулярнасцю. А адна з бібліятэк носіць імя Кірылы Тураўскага.

Без перабольшання можна сказаць, што, дзякуючы дзейнасці таварыства, імя свяціцеля Кірылы набыло шырокую вядомасць не толькі сярод вучоных, жыхароў Гомельшчыны, але і далёка за межамі Беларусі. Стала правілам, што ўсе матэрыялы канферэнцый публікуюцца, брашуры рассылаюцца не толькі па бібліятэках рэспублікі, але і за мяжу.

Зроблена нямала, аднак дзейнасць таварыства яшчэ не дасягнула таго размаху, якога заслугоўвае Кірыла Тураўскі. Наперадзе вялікая работа па глыбокаму вывучэнню яго арыгінальных філасофскіх поглядаў, якія значна пераўзыходзяць па глыбіні светаразумення погляды яго заходніх калег. Кірыла Тураўскі па праву можа быць названы адным з заснавальнікаў праваслаўнай хрысціянскай філасофіі, паколькі ў яго працах з пункту гледжання праваслаўя разглядаюцца ўсе асноўныя філасофскія праблемы.

На жаль, яшчэ слабыя сувязі таварыства са славянскімі і, перш за ўсё, беларускімі замежнымі суполкамі, удзел якіх у рабоце таварыства надаў бы ёй новыя імпульсы. Запрашаем нашых замежных суайчыннікаў прыняць пасільны ўдзел у рабоце таварыства і тым самым аддаць належнае вялікаму дзеячу зямлі беларускай, нашаму славутаму земляку, свяціцелю Кірыле Тураўскаму.



*На свята да земляка.*

# КОЛАСА СПЕЛАГА...

славу і прызнанне і дзе не раз адчуеш сябе пераможаным.

Школа беластоцкіх літаратараў свядома імкнулася, абмінаючы постсацыялістычную эпоху, увесці беларускую літаратурную традыцыю адразу ў рэчышча сучасных развітых еўрапейскіх моў і літаратур, якім было па сіле адлюстраваць усю складанасць і шматгранасць часу, на што патрабаваліся развітым літаратурам вякі. Для такіх смелых спроб патрэбна было і надзвычайнае моўнае чуццё, падсвядомае адкрыванне скрытых законаў моўнага развіцця. Мабыць таму ў шматлікіх дыскусіях нашага часу па многіх спрэчных пытаннях іх прамежкавая пазіцыя, як відавочна, у нечым і найбольш правільная:

Над пожняй счарнелай,
над з'езджаным полем,
Над каменем вострым,
над каменем гладкім...
Як цяжка таму,
хто ведае болей,
Стаптанага жыта збіраці
астаткі,
Не меўшы надзеі,
хоць маючы Слова,
Якое з пачатку
сусвету гучала...
О, Ойча, Ты ж нашаю,
простаю мовай
Сказаў жа: "Хай будзе!" —
і ўсё так паўстала.

Чым жа вабяць творы Міры Лукшы? Чытачоў захапляе складаны і ў той жа час арганічна просты, вобразны свет яе твораў, дзе перапляліся нацыянальная даўніна, падзеі мінулай вайны і шматаблічная сучаснасць. Яе творы — летапіс жыцця роднага краю, бо, гаворачы словамі адной з яе гераінь: "А для навукі ... трэба запісаці, што дзе е, каб посьлей ні сказалі, што туту нас заўсім ні было".

І гэтае адчуванне адказнасці за родны край дае надзвычайны плён, выяўляецца ў багацці паэтычнага падтэксту. Лірычны герой вершаў Міры Лукшы літаральна захоплены чароўным светам даўніны і мастацкімі вобразамі нацыянальнага фальклору. Адсюль пры ўзнаўленні пластоў далёкага мінулага ў аўтаркі заўважаецца фальклорнарамантычны падыход да гістарычных падзей, трансплантацыя іх, нібы праз трызненне ў сучаснасць.

Нацыянальная даўніна для яе гэтак жа рэальна жывая, як сучаснасць, яна паўстае ў колерах і гуках, ва ўсёй паўнаце і рэальнасці адчування:

... а вочы ў цябе
як паўночны мох
мяккі і жорсткі —
алень што паднябенне
мае ядвабнае скажа
які смак паўночнага моху —
я не асмелюся
калі
палае паўночнае ззянне
маўчым
маўчым князь.

Адметнасць гістарычнага светабачання аўтара якраз у тым, што яно неадменна прысутнічае ў асэнсаванні любой

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

*Постаць пісьменніка Ядвігіна Ш. — Антона Лявіцкага (1869—1922) намі яшчэ як след неспазнана. Ён быў не толькі пісьменнікам. Яго цікавіла і палітыка. У палітычны вір укруціўся яшчэ падчас вучобы ў Маскве. Праўда, палітыкай цікавіўся ў такой ступені, наколькі яна спрыяла адраджэнню Беларусі. На долю пісьменніка з гэтай нагоды выпала шмат выпрабаванняў. Асабліва цяжкім быў час, пачынаючы з 1917 года. Але і папярэднія былі не мёд. Пра гэта якраз і распавядаюць новыя даследчыцкія абразкі Уладзіміра СОДАЛЯ.*

# ВУГЕЛЬЧЫКІ З ПОПЕЛУ

## ВІХУРА 1917-га ГОДА

Тысяча дзевяцьсот семнаццаты год Ядвігін Ш. сустракаў разам з сваімі аднадумцамі ў "Беларускай хатцы". Тады ўсе яны спадзяваліся, што новы год прынясе шмат перамен, якіх не ведаў ніводзін папярэдні год. То ж і не памыліліся. Перамены адбываліся так імкліва, што многія не паспявалі іх асэнсоўваць. Ядвігін Ш. з цікавасцю сачыў за ўсімі падзеямі. І не проста сачыў, шмат у якіх браў самы актыўны ўдзел. А як жа іначай! Ягонай Беларусі ў гістарычным тунелі засвяціла якоесь святло. Была надзея адкрыць беларускія школы... Захоплены грамадскім жыццём, ён не заўважыў, як рэвалюцыйная бура з горада дакацілася і да ягонага ціхага фальварка. Пакуль ён з сваімі аднадумцамі дамагаўся для Беларусі незалежнасці, роўнасці, раз'юшаны рэвалюцыяй натоўп рабаваў ягоную Карпілаўку. Падчас гэтага разгрому загінуў самы каштоўны скарб Ядвігіна Ш. — ягоныя рукапісы. А іх было там нямала. Паводле слоў Ванды Лявіцкай, Ядвігін Ш. не спяшаўся пасылаць напісанае ў рэдакцыі і захоўваў свой архіў у Карпілаўцы. Як ішоў разгром пісьменніцкай сядзібы, падрабязных звестак не маем. Вядома, што недалёка знаходзіўся маёнтак Зыгмунта Чаховіча Малыя Бяседы. Вось як пра лёс гэтай сядзібы распавядае газета "Вольная Беларусь":

"У той час, калі нямецкае войска займала Беларусь, а "расійскае воінства" ў беспарадку(...) рынулася к Барысаву, сяляне з Карпілаўкі, узброеныя вінтоўкамі, напалі на маёнтак Малыя Бяседы і разграбілі яго дашчэнту. Ні аставілі насення, ні аставілі нават хлеба для парабкоў, якія там служылі..." Гэтакім жа парадкам загінула і бяседская бібліятэка Чаховічаў. Было там шмат каштоўных кніг і аб нашым краі. Менавіта той бібліятэкай паслугоўваўся падлетак Янка Купала, і яна адкрыла яму цэлы свет.

Аўтар допісу ў "Вольнай Беларусі" пра падзеі ў Малых Бяседах быў хтось Б-ка.

Вельмі цікава, што на адной і той жа старонцы, побач з паведамленнем пра згаданы пагром у Малых Бяседах, змешчаны і перадрук нататкі з газеты "Беларускі шлях", аўтар якой не хто іншы, як Ядвігін Ш. Гэтая нататка малавядомая нашаму чытачу. Яна блізкая па часе да падзеяў пагрому маёнтка ў Малых Бяседах і перадае пэўныя настрой і думкі аўтара. Падаём яе цалкам:

"Напаткаў я цікаўны дакумент: на паўаркушы паперы з верху тры слупкі друку — па-нямецку, па-польску і па-беларуску; унізе і другая старана паперы разлінавана на тры часткі. У першай пішацца імя і прозвішча, у трэцяй — подпіс; з боку на перадзі — нумаровы парадак. Надрукована вось што:

"Мы, ніжэй падпісаныя, адвечныя жыхары Віленскай губ. у часьці яе нідаўна акупірованай (паветаў — Вілейскага, Дзісьненскага і часьцін Ашмянскага) уратованыя і аддзеленыя германскім войскам ад анархіі вялікарасійскага большавізму, вельмі хочам, каб гэтае аддзяленне было назаўсягды і каб нашы паветы былі далучаны да рэшты Віленшчыны з яе прадвечнай сталіцай Вільняй, з каторай наш край зьвязан у адно цэлае праз рэлігійныя, культурныя і гаспадарскія справы, бо толькі пры гэтых варунках мы можам быць пэўнымі, што заходняэўрапейская культура ў нас замацуецца і разаўецца. У квеці 1918 г.".

Гэты допіс Ядвігін Ш. прыслаў у "Беларускі шлях" з Дзісеншчыны. Як вынікае з рэдакцыйнага каментара, Ядвігін Ш. стала друкаваўся ў згаданай газеце. Ягоныя допісы змяшчаліся пад рубрыкай "Абразкі з правінцыі". Абразкі гэтыя нашым чытачам пакуль невядомыя: іх няма ў найбольш поўным зборы твораў Ядвігіна Ш. Дый для шмат каго сама звестка, што Ядвігін Ш. стала друкаваўся ў "Беларускім шляху", новая.

## КАЖУ ПРА ГЭТА НЕ З-ЗА РАБСКАГА СТРАХУ...

Літаратуразнаўца і даследчык Іван Чыгрын у сваю пару пахвоціўся падрыхтаваць і выдаць томік выбраных твораў найстарэйшага і самабытнага беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш. — Антона Лявіцкага. Укладальнік шчыра парупіўся, каб гэты томік быў прадстаўнічы і ёмісты. І яму гэта ўдалося. Томік выйшаў у 1976 годзе. Тады яшчэ панавала магутнае права цэнзуры, шмат чаго не дазвалялася, шмат чаго забаранялася. Тым не менш згаданы томік твораў Ядвігіна Ш. атрымаўся ладным. І ўсё ж не ўсё з ядвігінскай спадчыны туды ўвайшло. І найперш з ягонай рускамоўнай публіцыстыкі, журналістыкі, нават з таго, што было выяўлена ўкладальнікам. А шкада! Кожная пісьменнікава нататка, кожны допіс — гэта найперш пэўныя факты ягонай біяграфіі, якіх нам так нестае. Гэта таксама і ягоныя думкі, настроі, развагі.

Скажам, у папках з фотакопіямі ядвігінаўскіх допісаў з "Белорусского вестника" за 1905 год, якія захоўваюцца ў бібліятэцы Інстытута літаратуры АН Беларусі, ёсць споведная занатоўка — "Errare humanum est" ("чалавеку характэрна памыляцца"). Якая яна цікавая! Колькі ў ёй для нас новага! Высвятляецца, у 1905 годзе па Беларусі хадзіла шмат улётак, невялікіх кніжачак, пісаных па-беларуску. Улада абвінавачвала ў гэтым Ядвігіна Ш. З гэтай нагоды Ядвігін Ш. мусіў у нумары "Белорусского вестника" за жнівень 1905 года напісаць:

"...личное мнение ... личный взгляд на вещи. Уважаю я ихъ, но тогда позвольте и мне откровенно высказаться.

За последнее время стали распространяться по сёламъ и деревнямъ маленькие книжечки на белорусском наречии въ роде "смыка", "казок" и т. п.

Спешу уверить всехъ техъ, кто меня лично или письменно спрашивалъ, что я решительно никакого участия в этих изданияхъ не принималъ и не принимаю. Заявляю об этомъ не из рабьяго страха (онъ, кажется, безъ...), не из шкурныхъ интересов, а лишь потому, что распространение подобных изданий между деревенским людомъ, необладающимъ достаточной долей критики печатного слова, нахожу на только не желательнымъ, но прямо таки вреднымъ.

Белорусские издания нужны и бесспорно могут принести огромную пользу народной массе, но для этого далеко ещё недостаточно, чтобы издания эти лишь печатаны были на белорусском наречии, не вникая в ихъ содержание, тенденциозность. Думаю, безполезно спрашивать у этихъ господ и издателей "смыковъ" и "казокъ", чемъ они руководствуются, распространяя подобныя брошюры". І далей: "Те, которые разсеваютъ не единение, а рознь, не дружбу, а вражду, не любовь, а ненависть, те, которые устраиваютъ такую то травлю одного сословия на другое, те не даютъ отчета не только никому, но и не даютъ его, я уверенъ, и себе... Ядвигин Ш." Згадзіцеся, вельмі цікавы факт з жыццяпісу Ядвігіна Ш. Не менш цікавы і аўтарскі каментар.

Усяго у чыгрынаўскай папцы больш за дзесятак невядомых пакуль нашаму чытачу ядвігінаўскіх допісаў, якія былі змешчаны ў "Белорусском вестнике" за адзін толькі 1905 год. Згадаем назвы некаторых з іх. Скажам, "Гардзееў вузел". Палітычныя развагі гучаць у нататцы "Шыла ў мяшку". З памфлета "Фабрыканты патрыётаў" даведваемся, што ўжо ў той час розумы людзей турбавала, якому народу належыць Адам Міцкевіч. Менавіта такая спрэчка разгарэлася аднойчы між трэцякласнікамі і настаўнікам адной мінскай прагімназіі. Вынік спрэчкі: вучня выключылі з прагімназіі. Гэта абурыла Ядвігіна Ш. Гэтак і з'явіўся памфлет "Фабрыканты патрыётаў".

Пераважная большасць допісаў Ядвігіна Ш. друкавалася ў раздзеле "Въ часы досуга". І напраўду, было пра што разважаць чытачам "Белорусского вестника" разам з Ядвігіным Ш. Ён быў самы арыгінальны, самы рэвалюцыйны з усіх працаўнікоў газеты, гаварыў пра ўсе з'явы жыцця псіхалагічна пранікнёна, адкрыта, шчыра як ніхто іншы. Ягоныя допісы, памфлеты, замалёўкі насычаны разнастайнымі прымаўкамі, шматлікімі лацінскімі выразамі. Усё гэта дае нам больш поўнае ўяўленне пра свет Ядвігіна Ш., свет ягоных думак і настрояў. Між іншым, чамусь даўней думалася, што псеўданім Ядвігін Ш. упершыню паўстаў у 1906 годзе падчас яго беларускамоўнага дэбюта з апавяданнем "Суд" у "Нашай Долі". Але знаёмства з публікацыямі ў газетах "Виленский вестник" сведчыць, гэтым псеўданімам — Ядвігін Ш. — Антось Лявіцкі карыстаўся ўжо з 1904 года. Ім падпісаны ўсе ягоныя публікацыі як у "Виленском вестнике", так і ў "Белорусском вестнике".

Іншы раз Ядвігін Ш. карыстаўся і крыптонімам, утвораным ад яго псеўданіма, — Я. Ш. Гэтым крыптонімам падпісана ў "Белорусском вестнике" некалькі, пераважна невялікіх нататак.

Яшчэ адна цікавая драбнічка: не заўсёды ў рускамоўным друку паслядоўна вытрымана ў псеўданіме "ъ" напрыканцы слова пасля апошняга зычнага. У адных выпадках маем "Ядвигинь Ш., а ў іншых проста "Ядвигин Ш." Згадваю пра гэта не выпадкова: пісьменнік быў вельмі патрабавальны да друкаванага слова, перажываў усялякі разнабой, моўную непаслядоўнасць. Не адзін раз з гэтай нагоды выступаў з сваімі развагамі ў друку. Гэтак з-пад ягонага пяра нарадзіліся такія публікацыі, як "ъ", измь и... ство" ды іншыя. У іх закраналіся самыя разнастайныя аспекты рускай мовы, рускай граматыкі, рускага алфавіта. І што цікава: ягонымі думкамі пасля паслугуюцца заканадаўцы рускай мовы. Ва ўсялякім разе, усё адбудзецца гэтак, як думаў і разважаў наш неўтаймоўны Ядвігін Ш., якому да ўсяго быў клопат у тагачасным шматгранным і складаным жыцці.

СПАДЧЫНА



У памяшканні былога гарадскога млына ў Оршы размясціўся музей этнаграфіі "Млын". Усе яго экспанаты — рэчы і прыстасаванні, якія выраблялiся сялянамі для прымянення ў побыце і штодзённай рабоце.

*На здымках*: у час экскурсіі; адзін з куткоў музея.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.*



БЕЛАСТОЧЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

# І ЎПАЛА НАСЕННЕ...

жыццёвай з'явы. Падзеі сучаснасці, малюнкі роднай прыроды, духоўны свет герояў выяўлены ў непарыўнай повязі часоў:

У тумане сівы конік
Праляцеў над росным лугам.
Малы конік танканогі
У мгле пакінуў цёплы сьлед.

Перабегшы рысьсю памяць,
Ружавее сёньня, позні
Над халоднымі лугамі
Конік, дрогкі, іншы сьвет.

Часамі ў лірычных вершах М. Лукшы выяўляецца моцны эпічны пачатак. У развіцці паэтычнага сюжэта амаль заўсёды прысутнічаюць драматычныя моманты.

Якраз на спалучэнні лірычнага і эпічнага адбылося цікавае жанравае ўзбагачэнне, фігуры лірычных герояў набылі буйны план, атрымалі асаблівую, амаль баладную значнасць і сімвалічнасць. Відаць, сапраўднае майстэрства і ў тым, каб звычайнай жыццёвай сітуацыі, спалучэнню чалавечых душ і характараў з дапамогай адпаведнага прыёму надаць элементы асаблівага, ледзь не баладнага, эпіка-драматычнага гучання:

У белую нядзелю
паедзем у сьвет
на срэбнай кабылцы
у вуздэчцы з зорак.
Захмеленым ранкам
у вечнай дуброве
нап'емся вадзіцы
з крыніцы празрыстай
з жывою вадою.
Абмыем далоні
і чорныя вочы,
дамо піць кабылцы,
і ў пырсках халодных
адыдзем у сьвята,
сьвятыя, як дзень.

Пра асаблівыя магчымасці лірычнага верша ў традыцыях эпіка-драматычнага гучання сведчыць адзін з лепшых вершаў зборніка "Замова" — "Шагал". Сама па сабе трагедыя геніяльнага мастака, вымушанага жыць далёка ад Радзімы, пададзена нібы ў двух планах: трагедыя Радзімы, многія лепшыя сыны якой вымушаны на працягу гісторыі даволі часта пакідаць яе, і пакуты сына, адарванага ад Айчыны:

Усё хапаеш у далоні агонь —
Чысты боль паэта, прарока.
Горкім сокам спаўзе у далонь
З пэндзля фарба слязой адзінокай.

Як у паэтычных, так і празаічных творах аўтаркі важную ролю заўсёды адыгрываюць буйныя вобразныя адзінкі, як, напрыклад, мастацкая дэталь, якая ў М. Лукшы заўсёды нечакана трапная і асабліва адметная, далікатная, з усімі рэчыўнымі падрабязнасцямі: "Дзьверы суха рыпнулі. Дзяўчына пераступіла парог. На падлозе кухні ляжала рассыпанае зерне пшаніцы. Насупрак уваходу ўбачыла люстэрка, заслоненае вышываным ручніком. Ля пліты вісеў хвартух. Яго фалды ўлажыліся і застылі пуката, быццам хацелі захаваць упэўнены кшталт гаспадынінага цела. Пад ім стаялі гумовыя чобаты з грудкамі бруду з-пад хлява, з якіх адышоў ужо паз снегу, растопленага на кволым перадвеснавым сонейку, перамешанага з конскім навозам і сеннай трухою.

Сьлёзы мелі смак вады зь ледзяшоў з-пад страхі, калі Бася, асьлепленая амаль веснавым сонцам ішла ў бок цёмнага лесу, на чыгуначную станцыю".

Звяртае на сябе ўвагу разнаітая творчая майстэрня паэткі, багацце яе вобразна-выяўленчых сродкаў:

я падаю табе руку
ты даў мне купленую ружу
мая далонь крываточыць з тае пары
стыгматамі расьпятае любові
веры
маю надзею:
не прыйдзецца мне падаць
руку чалавеку
на прывітаньне

Творы Міры Лукшы заўсёды мелі шырокую папулярнасць у беластоцкага і ўласна беларускага чытача, як "народная кніга" ў часы абуджэння славянскіх нацый. Сакрэт чытацкай любові да гэтай таленавітай пісьменніцы, відаць, і ў тым, што галоўны герой яе псіхалагічных і лірычных імпрэсій — Яго вялікасць роднае слова:

і ўпала насеньне
з коласа сьпелага
поўнага
і пад камень
і паміж асоты
і ў чорную глебу
і на ўзбочыны
тысячы сьцежак
і заквітнела расьліна
і кветку сваю аддала
вандроўнікам, —

нацыянальная культура, захаванне і плённае развіццё якіх перадусім толькі і забяспечвае права народам на шчасце, павагу і пашану ў свеце.

(Заканчэнне.
Пачатак на 4-й стар.).

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

## (РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ)

**Беларусы ў іншаэтнічных раёнах Расіі І чвэрці XX стагоддзя.** Масавая працоўная міграцыя беларускага насельніцтва па-за этнічную тэрыторыю, найвышэйшы ўздым якой прыйшоўся на перыяд пасля рэвалюцыі 1905 года, павялічыла беларускую дыяспару ў Расіі. Да першай сусветнай вайны па эканамічных прычынах толькі ў Сібір з Беларусі накіраваліся (пераважна сяляне) больш за 700 тысяч чалавек. У ходзе абвешчанай у 1906 годзе зямельнай (сталыпінскай) рэформы праводзілася палітыка дзяржаўнай падтрымкі перасялення ў Сібір і на ўскраіны імперыі з мэтай каланізацыі гэтых абшараў "рускім элементам" (да яго адносілі і праваслаўных беларусаў). У 1907—1914 гадах з Беларусі такім чынам перасяліліся 335, 4 тысячы чалавек (галоўным чынам, сяляне-беднякі), але 36,5 тысячы чалавек затым вярнуліся ў родны край з-за цяжкіх умоў жыцця на новых месцах.

У пачатку XX стагоддзя цэнтрам беларускага нацыянальнага грамадска-культурнага жыцця заставаўся Пецярбург. Пасля адмены ў 1905 годзе забароны на выданні па-беларуску тут пачалі працаваць першае легальнае беларускае выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца" (1906—1914), Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта (1912—1914).

Першая сусветная вайна (1914—1918) выклікала значны прыток беларускага насельніцтва ў цэнтральныя губерні Расіі і далей на ўсход. У 1915 годзе пры адступленні царскай арміі з тэрыторыі Беларусі сюды рынуўся паток бежанцаў, а таксама насільна эвакуіраванага насельніцтва. Па афіцыйных даных, у маі 1918 года ў іншаэтнічных рэгіёнах Расіі знаходзілася амаль 2,3 мільёна бежанцаў з Беларусі (найбольшая колькасць у Тамбоўскай, Самарскай, Калужскай, Казанскай, Курскай, Саратаўскай губернях, у Петраградзе і Маскве). Аб абуджэнні нацыянальнай свядомасці бежанцаў сведчыць паяўленне арганізацый у іх падтрымку — Беларускае таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны (з студзеня 1916 года да пачатку 1918), Беларуска-ўкраінскі камітэт помачы ахвярам вайны ў Барнауле, а таксама дзейнасць культурна-асветных арганізацый: "Беларуская хатка" ў Арле (1917—1918), Беларускі нацыянальны гурток у Багародзіцку (1917—1918), Арэнбургскі гурток беларусаў (1918) і інш.

У рэчышчы нацыянальна-вызваленчага змагання народаў Расіі, пасля Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года паскорылася развіццё і беларускага нацыянальнага руху. Ажывілася палітычная, культурна-асветная дзейнасць у асяродках беларусаў-бежанцаў, рабочых, вайскоўцаў і інш. Па ініцыятыве Беларускай народнай грамады (грамадска-палітычнай і культурна-асветнай арганізацыі), якая адстойвала правы беларускага народа на дзяржаўнае самавызначэнне ў складзе Расійскай Федэратыўнай рэспублікі, у Маскве былі праведзены два Усерасійскія з'езды бежанцаў-беларусаў восенню 1917 года. На першым з іх грамада зрабіла спробу выпрацаваць тактыку для ўсіх беларускіх арганізацый на выбарах ва Устаноўчы сход, але сустрэла супраціўленне Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) — нацыянальнай леванародніцкай партыі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі яе арганізацыі з'явіліся ў Петраградзе, Маскве, Казані, Саратаве, Калузе, Тамбове і інш. У Калужскай губерні ў час выбараў ва Устаноўчы сход у лістападзе 1917 года спіс, па якім праводзіла выбары БСГ, атрымаў 998 галасоў. БСГ мела прадстаўнікоў у Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў і гарадской думе Петраграда, удзельнічала ў рабоце Савета нацыянальных сацыялістычных партый (т. зв. Расійскага інтэрнацыянала). Частка грамадаўцаў брала ўдзел у абвяшчэнні БНР. Петраградская і маскоўская арганізацыі БСГ падтрымалі савецкую аснову беларускай дзяржаўнасці.

За аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэратыўнай рэспублікі выступаў праэсэраўскі Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, заснаваны ў Петраградзе з дэлегатаў ад беларускіх губерняў на Усерасійскіх з'ездах сялянскіх дэпутатаў, членаў Устаноўчага сходу, прадстаўнікоў арміі (лістапад 1917—1918, старшыня Я. Канчар), а таксама секцыя беларусаў пры ЦК партыі левых эсэраў.

Прыхільнікі стварэння беларускай дзяржаўнасці на савецкай платформе, якія імкнуліся спалучыць нацыянальную і сацыялістычную ідэі (А. Чарвякоў, А. Усціловіч (Усціновіч), І. Лагун і інш.) восенню 1917 года на базе петраградскіх арганізацый БСГ заснавалі Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (БСДРП існавала да красавіка 1918 года), члены якой удзельнічалі ў Кастрычніцкім узброеным паўстанні 1917 года. Партыя дэлегавала сваіх прадстаўнікоў на Усебеларускі з'езд (Мінск, снежань 1917 года) і патрабавала затым праз ЦК РСДРП(б) расследаваць прычыны яго разгону. Затым беларускія сілы, якія стаялі на грунце савецкай улады, гуртаваліся вакол Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкома, камісар А. Чарвякоў), які з лютага 1918 па сакавік 1919 года быў аддзелам Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей РСФСР і меў аддзяленні ў Петраградзе, Смаленску, Саратаве, Віцебску. У сваёй палітычнай і культурна-асветнай працы Белнацком абапіраўся на беларускія секцыі РКП(б) — часткі мясцовых бальшавіцкіх арганізацый у Петраградзе, Маскве, Варонежы, Казані, Невелі, Саратаве, Тамбове і інш., якія дзейнічалі ў 1918—1919 гадах. Актывізацыі беларускага нацыянальнага руху спрыялі праведзены Белнацкомам супольна з беларускімі секцыямі РКП(б) Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі (Масква, 1918), першая канферэнцыя беларускіх савецкіх партый і арганізацый (1918), дзейнасць Беларускага народнага універсітэта ў Маскве (1918), заснаванне грамадска-палітычных і культурна-асветных арганізацый: Беларускай чыгуначнай грамады (1918) і Беларускага навукова-культурнага таварыства (1918—1919) у Маскве, Беларускага вольна-эканамічнага таварыства (1918—1920) і Таварыства аматнікаў беларускага народнага штукарства (1918) у Петраградзе, Беларускай вучнёўскай грамады (1918) і гуртка беларускай сацыялістычнай моладзі (1918) у Калузе, клубаў "Беларуская хатка" (1918—1919) у Петраградзе і "Беларус" (1919) у Маскве. Друкаваны орган Белнацкома "Дзянніца", які выдаваўся ў Петраградзе, а затым у Маскве (1918—1919), абуджаў нацыянальную свядомасць беларусаў у Расіі, быў першай савецкай газетай на беларускай мове.

Працяг.
Пачатак у № № 9—11.

# *125 ГОД ТАВАРЫСТВУ ДАКТАРОЎ*

Споўнілася 125 год Віцебскаму таварыству ўрачоў. Яно дзейнічала ў Віцебску з 1874 года да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Пратаколы таварыства ў 1877—1878 гадах друкаваліся ў "Витебских губернских ведомостях" і выдаваліся асобнымі адбіткамі.

У 1917 годзе таварыства было пераўтворана ва ўрачэбную секцыю саюза "Усерасійская медыка-санітарная праца".

**Канстанцін КАРНЯЛЮК.**
г. Віцебск.



## НА КОНКУРС "БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ"

**Паважаныя спадары! Пасылаю вам сваю сціплую працу, напісаную пад уплывам успамінаў далёкага дзяцінства ў мілай майму сэрцу палескай вёсцы Парэчча, што на беразе Пцічы.**

**Многа вады ўжо ўцякло з той пары, але яна ўсё сніцца, і ніяк я не магу да яе дайсці — ні ў снах, ні на самай справе. Мову родную я падзабыў, таму мо дзе што не так, дык ўжо прабачце.**

**Жыву я пакуль адзін (жонка дарабляе стаж на КаМАЗе), як Рабінзон, хаця і сярод людзей. Не ўсё тут у нас ладзіцца. Але будзем аптымістамі: пасля эры вандалізму ўсё роўна прыйдзе калісьці росквіт.**

**Анатоль БЕНЕДЗІКТОВІЧ.**

Татарстан. Р. п. Камскія Паляны.

*АД РЭДАКЦЫІ. Вось такі ліст разам з дасланай на конкурс "працай" атрымалі ў рэдакцыі ў пачатку года. Звесткі пра сябе паважаны Анатоль Міхайлавіч падаў вельмі скупа. Хутчэй за ўсё, працаваў на вытворчасці, цяпер, як бачым, — на пенсіі. Літаратурнай працай, мяркуючы па ўсім, дасюль не займаўся. Пра гэта сведчыць першапачатковы варыянт яго матэрыялу. Можна было, вядома, вярнуць тэкст аўтару з прыпіскай, што ён не адпавядае прафесійным патрабаванням. Але зрабіць гэта не падымалася рука па той прычыне, што Анатолю Міхайлавічу, нават не маючы вопыту, удалося схапіць рысы жывога чалавечага характару, досыць своеасаблівага нацыянальнага тыпу, падгледжанага ў жыцці. Жыццё тое ўжо далёка ззаду, але яно і сёння выпраменьвае цяпло, што сагрвае чалавечую душу ў наш час, вельмі часта жорсткі, халодны і рацыяналістычны, пазбаўлены той наіўнай чысціні і спагады, якія мы бачым у "Хаме" — занатоўцы з натуры. Спадзяёмся, што многія нашы чытачы, якія, як і Анатоль Міхайлавіч, па розных прычынах пакінулі Бацькаўшчыну, убачаць тут сваё, да шчымлівага болю роднае, што назаўжды адклалася ў іх душах і сэрцах. Яно, безумоўна, у кожнага сваё, непаўторнае, але такое, што змушае абудзіць памяць, перанесціся ў пачуццях і думках у дні маленства, у родны бацькоўскі край. І хто ведае, можа гэты абразок мінулага жыцця паслужыць для многіх своеасаблівым пабуджальным імпульсам і падахвоціць напісаць пра тое, што неадчэпна прыходзіць у сённяшняе жыццё на чужыне з таго больш ці менш далёкага мінулага, калі жылі сярод сваіх людзей, сваёй прыроды і традыцый, сваіх песень і казак. Рэдакцыя лічыць сваім абавязкам друкаваць такія матэрыялы, будучы перакананай, што яны будуць ўзбагачаць нашы душы ад засыхання і змізарнення, паспрыяюць абуджэнню ў чалавеку чалавечнасці, без чаго немагчыма паўнацэннае жыццё, якім бы заможным і забяспечаным яно знешне ні здавалася.*

**Я. Л.**

# ХАМА

Вы не чулі пра Хаму? Шкада. Яго ведаюць усе ў нашай акрузе ад Мёдухава да Рудабелкі, а мо й далей. Мужык ён свойскі, гадоў пад 50, вялікі непаседа і гаварун. Мясцовыя плеткары вярзуць пра Хаму ўсякае, але гэтаму вы не верце. Мужык ён яшчэ той, ведае сабе цану і, як усякі паважлівы селянін, жыве з усімі ў згодзе.

Во, лёгкі на паміне, я па тупату яго пазнаю.

— Хама, гэй, Хама, куды гэта ты ў такую рань разагнаўся?

— Як куды, во дзівак, — адказвае Хама густым працяглым баском, — вядома, за грушамі!

— А ці многа сёлета паспела? — пытаюся.

— Ой, хлопча, многа! Аж галіны трашчаць, ужо каторы дзень нашу па мяшку, а іх усё не ўбывае.

— А куды табе столькі груш, ты ж не з'ясі столькі?

— Я не з'ем, дык хто-небудзь з'есць, — загадкава ўсміхаецца Хама, — што летам нагою — зімой губою!

Уздымаючы доўгімі нагамі сівы пыл, Хама імчыць у свае запаветныя мясціны, дзе, акрамя яго ды ляснога звяр'я, ніхто не бывае. Лес ён ведае, як уласны двор.

Я доўга гляджу яму ўслед, пакуль відаць яго шырокая спіна, апранутая ў нейкі куртаты лапсардак, і калматая галава з нібы прыросшай васьміклінкай. "Добрай дарогі табе, Хама!"

Жыве ён бабылём на Растаўскім хутары побач з Парэччам у невялікай хаціне. Прозвішча ў яго, здаецца, не было, а мо й забылася, бо яно, калі ўдумацца, дык і не патрэбна тут. Яго і так усе ведаюць ад малакасоса да міліцыянера, бо аніякага другога Хамы няма ва ўсёй акрузе і наўрад ці будзе калі!

Нялёгкая яму выпала доля, усяго паспытаў на гэтым свеце, але ж не зламаўся, вытрываў! Дый ці шмат аднаму чалавеку трэба! Летам спажыва пад нагамі, бяры — не лайдач, а зімою карміўся з таго, што назапашваў з агарода і з лесу. Калі-нікалі браўся гадаваць парсючка, але да сала той не дарастаў, бо ў Хамы, як ва ўсякага закаранелага халасцяка, апетыт заўсёды на ўзводзе.

Вельмі любіць Хама заходзіць у госці, хаця яго і не завуць.

— Добры дзень у хату, — вітаецца з парога. — Сыць, Божа!

— Добрага здароўя, Хама, — адказваюць гаспадары, — сядай з намі!

Хама дзеля прыліку патопчацца ў парозе, пачакае паўторнага запрашэння і, зняўшы шапку, сядзе, куды пакажуць, дастане сваю лыжку з патайной кішэні.

— Чаго ж ты не ажэнішся, Хама? — пытаюць у яго гаспадары.

Хама вінавата ўсміхаецца:

— Дык не йдуць за мяне ніхто.

Прысутныя спагадліва ківаюць галавамі: падабраць пару такому здаравяку няпроста.

— А ці спрабаваў шукаць? Мо недзе ў якім Загаллі ды Заглушшы й жыве твая краля?

Хама жвавее:

— Г-гы, вось выкапаю бульбу і пайду тады шукаць. Г-гы, можа й праўда дзе ляжыць на печы мая баба і мяне чакае.

Усе дружна смяюцца, рагоча і Хама.

Позняй восенню, калі работы ў гаспадарцы паменшае, наша моладзь збіраецца на вячоркі.

Любіць наш Хама заходзіць і сюды на агеньчык.

— Дзядзька Хама, раскажы што-небудзь, — просяць хлопцы.

Хама спачатку адмахваецца, што ўсё з галавы павылятала, але тыя не адступаюцца.

— Раскажы, дзядзька Хама, як ты летам злавіў свінню ў таптуху, — угаворваюць хлопцы, і Хама, задаволена ўсміхнуўшыся, паддаецца.

— Ат, пустое ўсё, выдумкі, не лавіў я яе, яна сама здуру спаймалася.

Трэба тут патлумачыць, што свінні ў нашым Парэччы — вялікія аматары гразевых ваннаў, а гразі ў нас, слава Богу, усюды хапае, асабліва каля забалочаных берагоў Пцічы. Гразь цёплая, тлустая, ляжы сабе ды пасопвай у лыч, ні мух табе, ні аваднёў. Бывала, што і мы, канапляннікі, вымазваліся той граззю, дурэючы, і былі, як нячысцікі.

Паддаўшыся настойлівым просьбам, Хама, прысунуўшыся бліжэй да газніцы, пачынае ўжо каторы раз сваю рыбацкую байку, усякі раз перайначваючы час і месца дзеяння.

"Пайшоў я раз берагам з таптухай, г-гы, думаў крыху рыбы на юшку здабыць, дзе ні пастаўлю таптуху — няма нічога, адны жабы лезуць, г-гы.

Дай, думаю сабе, пастаўлю каля плюшніка, можа шчупака заганю ці карася якога. Боўць, боўць, зноў няма нічога. Няўжо, думаю, я юшкі сёння не пасёрбаю? Прыкмеціў непадалёку кусцік чароту ля самага берага. Во, думаю, зараз ціхенька падкрадуся.

Паставіў я, гэта, таптуху і жвава пагнаў ды з гарачкі наступіў на нешта слізкае, а яно як ускочыць з віскам ды ў таптуху як дасць!

Бачу, свіння, г-гы, надзела таптуху маю на рыла і ўцякаць. Стой, крычу! Дагнаў я яе, выцягнуў дубцом уздоўж храбціны, а яна прадрала сетку і як шугане на мяне, збіла з ног і ўцякла, г-гы, вось табе, Хама, і юшка!

Слухачы ад смеху аж пад стол лезуць.

— Дык, можа, тая свіння была дзікая? — пытае нехта.

— Ага, дзікая, хіба я парэцкіх свіней не знаю, Антона Быбіка свіння, ён хадзіў яе шукаць уздоўж ракі, думаў мо ўтопла, г-гы. А вечарам пастухі прыгналі, кажуць, бегла прама ў раён.

— Г-га! — іржуць хлопцы, а дзеўкі выціраюць слёзы канцамі хустак. — У раён, а чаго, на базар, прадавацца?

— А пачым кіло не пыталі?

— У каго?

— Ну ў свінні!

Зноў грамавы рогат скаланае хату.

Бывае, іншы раз хто-небудзь з падпіўшых хлопцаў пачынае абражаць дзевак ці нават самога Хаму, тады ён пакідае гурт. Пьяных Хама дужа не любіць, а мо й пабойваецца, хаця пры добрых людзях дзербане шклянку, другую.

Аднойчы, калі пачалася бязлітасная барацьба з самагоншчыкамі, раённыя змагары за цвярозасць надумалі выкарыстаць Хаму ў ролі правакатара, паабяцаўшы за гэта грошы.

— Добра, — згадзіўся Хама, — пайшлі, толькі грошы наперад.

Доўга вадзіў ён іх па лесе, як той Сусанін, і нарэшце, калі ўзмакрэлі і выдахліся, пачалі яму пагражаць. "Ну, скора? — пытаюць яны ў роспачы Хаму. "Скора, скора, пацярпіце крыху, браткі!" — і зноў павёў па нейкаму буралому ды балоту.

Нарэшце не вытрымалі змагары і пачалі крычаць на Хаму: "Ну дзе яно, тое паганае месца, дзе гоняць гарэлку, што ты водзіш нас за нос!" — "Нічога я вас не ваджу, — Хама спакойна паказаў у бок, дзе ззяў агнямі Рудабельскі спіртзавод, — вось яно, тое месца, дзе гоняць гарэлку!"

Актывісты з раёна аж пазелянелі, а Хама з грашыма шасць у кусты, і "бывайце здаровы!"

Кажуць, хацелі пасадзіць яго за гэта на 15 сутак, але абышлося.

Неяк сталі заўважаць, што Хама пачаў вельмі старанна драць лазу, збіраць ягады, грыбы і ўсё гэта здаваць у сельпо, каб выручыць грошы.

"З чаго б гэта? — гадалі цікаўныя. "За розум узяўся", — казалі адны. "Мабыць жаніцца надумаў", — казалі другія і былі бліжэй да ісціны.

Параілі яму бывалыя людзі з'ездзіць у горад па абнову, бо ў нашым сельпо такое барахло гадамі вісіць, што ў ім у кароўнік хадзіць брыдка.

Прыйшоў Хама на станцыю і папрасіў білет да горада. Выпісала касірка яму білет і патрабавала 60 рублёў, яшчэ пасляваеннымі грашыма. Як пачуў Хама, што столькі ў яго хочуць адняць, аж тварам змяніўся. Шкада яму стала сваіх потам здабытых, і, махнуўшы рукой, пайшоў у горад пешшу, а гэта 60 кіламетраў. Усю ноч ішоў ён у горад па чыгунцы, увесь упрэў. Але не такі наш селянін-паляшук, каб адступіцца ад задуманага.

Той дзень быў самым славутым у яго жыцці, бо дасюль Хама насіў тое, што давалі добрыя людзі.

Вырашыў Хама адсвяткаваць пакупку. Купіў 2 буханкі гарадскога хлеба і кілаграм камсы, старанна гэта ўсё ўмяў, запіваючы халоднай вадой. І, поўны радасці, пусціўся дахаты. А дарога дамоў заўсёды лёгкая, хоць за плячыма ў цябе і гарбаціцца хатуль набытага і перажытага...

Ці ажаніўся Хама ў новых портках, ці не — нават не ведаю, бо якраз у тым часе я з'ехаў з родных мясцін у далёкі свет шукаць лепшай долі. У кожнага яна свая; гэта ўжо як у каго на раду напісана.



*Паляўнічы.*

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

## КНІГАЗБОР



**НОВАЯ КНІГА**

**ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ**

### УРАДЖЭНЦЫ БЕЛАРУСІ ЗА ЯЕ МЕЖАМІ

**Падокшын С.** Зыход на чужыну: Перадумовы эміграцыі. Культур. эміграцыя і дзяржаўнасць. Этапы бел. эміграцыі. Лёс *Сімяона Полацкага*.Бел. эміграцыя ў XIX—XX стст. // Беларусь. 1998. № 2. С. 8—10.

**Сяргеева Г.** Беларусы ў барацьбе за свабоду і незалежнасць Балгарыі [XIX ст.: Таксама пра ўдзел беларусаў у руска-турэцкай вайне 1877—1878 гг.] // Звязда. 1998. 3 сак. С. 4.

**Рэвяко К.** *Дзмітрый Іванавіч Азарэвіч* (1848 [г. Горкі] — 1912): [Жыццё і навук. дзейнасць рас. вучонага, даследчыка антыч. Рыма і рым. права] // Гісторыя: праблемы выкладання. 1998. № 1. С. 114—116.

**Явар С.** З гісторыі жыцця "нашаніўца" [паэта, публіцыста, выдаўца, грамадскага дзеяча на эміграцыі (Германія, ЗША) *Эдзюка (Эдуарда Адамавіча) Будзькі* (1882, Мядзел. р-н — 1958)] // Голас Радзімы. 1998. 26 сак. С. 4.

**Баркоўскі А., Сачанка С.** *Бялыніцкі-Біруля Вячаслаў [Вікенцьевіч* (1870, па інш. крыніцах 1873, Мін. губ. — 1966): Пра грамад.-паліт. дзеяча, пісьменніка, публіцыста, які жыў і працаваў у Якуціі] // Кантакты і дыялогі. 1998. № 1. С. 14—16.

**Карлюкевіч А.** *Дамброўскі Франц* [(1851, Віцебск — 1909): Пра пісьменніка, перакладчыка, які жыў у Расіі] // Кантакты і дыялогі. 1998. № 1. С. 16.

**Петухова Н.** *Дуброўскі-Гуз Павел* [(*Паўлюк*; нар. у 1924 г., Рэчыц. р-н): Пра дзеяча бел. эміграцыі ў Аўстраліі, публіцыста] // Кантакты і дыялогі. 1998. № 1. С. 17.

**Сачанка С.** *Жучка Янка* [(нар. у 1 928 г., Навагруд. р-н): Пра дзеяча бел. эміграцыі ў Бельгіі, інжынера, журналіста] // Кантакты і дыялогі. 1998. № 1. С. 17—18.

**Кавыль М.** Мой шлях: [Аўтабіягр. нататкі пісьменніка на эміграцыі (ЗША) *Міхася Кавыля* (сапр. *Язэп Казіміравіч Лешчанка*; нар. у 1915 г., Слуц. р-н): З кн. аўтара "Міжагнёўе" (Нью-Ёрк, 1990)] / Прадм. У. Арлова "Пра Міхася Кавыля", с. 105—106 // Крыніца, 1998. № 1. С. 106—111.

**Карлюкевіч А.** Знакаміты абаронца лесу: [Пра *Дзмітрыя Нічыпаравіча Кайгародава* (1846, Полацк — 1924), прыродазнаўца, педагога, які працаваў у Расіі] // Падарожнік. 1998. № 1. С. 5—7.

**Савік Л.** *Кудасава-Запруднік Надзея* [(дзявоч. *Рагалевіч;* нар. у 1932 г., Жытк. р-н): Пра мастака, грамад.-культур. дзеяча на эміграцыі (ЗША)] // Кантакты і дыялогі. 1998. № 1. С. 18—19.

**Сакалоўскі У**. *Міхась Маскалік* [1903, г. п. Гарадзея — 1965] — навуковец і святар: [Пра філолага, бел. каталіц. святара ўсход. абраду, культур.-грамад. дзеяча на эміграцыі (Германія)] // Род. слова. 1998. № 2. С. 184—189.

**Гапоненка В. А.** *Уладзімір [Фёдаравіч] Міткевіч* [(1872, Мінск — 1951): Пра вучонага-электратэхніка, які жыў і працаваў у Расіі] // Фізіка: праблемы выкладання. 1998. № 1. С. 111—112.

**Волостных Е.** О белорусской лекарке, удивившей Европу [*Саломее Русецкой-Пильштыновой* (1718, Новогруд. пов. — после 1760)] // Здоровье и успех. 1998. № 1. С. 21.

**Сакрат [Канстанцінавіч] Яновіч** [(нар. у 1936 г., Беластоц. ваяводства): Матэрыялы пра жыццё і творчасць бел. пісьменніка з Беласточчыны] / У. Конан, В. Варашыльскі, Я. Максімюк і інш. // Крыніца. 1998. № 2. С. 2—49.

ПАДАРОЖЖЫ: ЗАПРАШАЕ БЕЛАРУСЬ




# БЯРЭЗІНСКІ БІЯСФЕРНЫ ЗАПАВЕДНІК

## BIOSPHERE RESERVE BEREZINSKY

Часам прыроду Беларусі называюць ціхай, непрыкметнай, сціплай. Але ці заўсёды гэта правільна? Можа падобная ацэнка ідзе ад залішняй сціпласці саміх беларусаў? Сапраўды, ну як жа можна казаць "непрыкметныя" пра вольныя беларускія дубровы са звонкімі крыштальнымі крыніцамі, зараснікамі ажыны і стогадовымі дубамі ў тры абхваты? А блакітны россып азёр, глыбіня некаторых з якіх не саступае марской? Ну, а што яшчэ акрамя захаплення і пачуцця велічнасці выклікаюць у назіральнікаў легендарныя беларускія волаты — зубры?




Сярод турыстычных маршрутаў, якія зараз прапануюцца па тэрыторыі краіны, у першую чаргу, цікавяць тыя, што пралягаюць праз нацыянальныя паркі і запаведнікі. Беларусь з поўным правам можа ганарыцца сваёй непаўторнай прыродай.

Бярэзінскі біясферны запаведнік быў утвораны яшчэ ў 1925 годзе, а ў 1995-м адным з першых на тэрыторыі былога СССР узнагароджаны Дыпломам Савета Еўропы за прыродаахоўную дзейнасць. Знаходзіцца запаведнік у паўночнай частцы краіны і пачынаецца за 120 кіламетраў ад Мінска. Добрая сучасная шаша спрыяе хуткай сустрэчы падарожнікаў з запаветнымі мясцінамі. Пасёлак Домжарыцы — адміністрацыйны і навуковы цэнтр Бярэзінскага запаведніка. Тут турыстаў чакае цёплы прыём, прапануюць паслугі вопытныя кваліфікаваныя экскурсаводы. У Домжарыцы варта наведаць музей прыроды. Яго багатая экспазіцыя — сціснуты "пераказ" жыцця запаведніка — робіць незабыўнае ўражанне на наведвальнікаў (як аматараў прыроды, так і прафесійных біёлагаў і эколагаў).

Нягледзячы на адчуванне некаторай "адарванасці ад цывілізацыі" — усё ж вакол ва ўсе бакі на многія кіламетры лес, — у Домжарыцы турысты паселяцца ў невялікім, але выдатна абсталяваным гатэлі, які і па еўрапейскай класіфікацыі "цягне" на неблагую "зорнасць". Там гасцей чакаюць утульныя адна- і двухпакаёвыя нумары "люкс" і "паўлюкс", натуральна, з усімі бытавымі зручнасцямі: кандыцыянерам, халадзільнікам, спадарожнікавым тэлебачаннем. Безумоўна, не ўзнікне праблем і з харчаваннем: рэстаран гатэля прапануе сучасную і традыцыйную беларускую кухню, дзе сярод іншага госці маюць магчымасць паспрабаваць і пасапраўднаму экзатычныя стравы, прыгатаваныя з мясцовай дзічыны, азёрнай і рачной рыбы, грыбоў, лясных ягад... Ну а пасля можна пасядзець у бары, для жадаючых — дыскатэка хоць да раніцы, більярд. Але ўсё гэта толькі прэлюдыя, уверцюра да маючай адбыцца галоўнай дзеі — непасрэднай сустрэчы з жывёльным і раслінным светам цудоўнага краю.

Бярэзінскі біясферны запаведнік — месца сапраўды унікальнае: прыродныя раслінныя комплексы тут захаваліся амаль у непарушным стане. Вельмі разнастайны лес, ці не палову якога складаюць хвойнікі. Шмат бяроз, ельнікаў, асіннікаў, чорнаальшаннікаў. І асаблівы гонар — дубровы. Вялікую цікавасць у біёлагаў выклікаюць ясеневыя і чорнаальхова-ясеневыя дрэвастоі, дзе ўзрост некаторых экземпляраў дасягае аж 160—170 гадоў! Сапраўднае замілаванне выклікаюць увесну зараснікі чаромхі, нібы пакрытай белай пенай, а восенню — вытанчаныя вогненныя рабіны. У пойме Бярэзіны — вялікая колькасць вярбы.

Дарэчы, сама рака цячэ праз тэрыторыю запаведніка на 110 кіламетраў і мае 30 прытокаў. А калі дадаць яшчэ шмат азёр, то будзе зразумелым, якая захапляючая вольніца чакае тут рыбаловаў: 34 віды рыб водзяцца ў мясцовых вадаёмах. Таму калі з'явіцца жаданне ўласнаручна выцягнуць судака, шчупака, мянтуза, сама, ліня, прыязджайце, не пашкадуеце. Ды і ракаў на затоках хапае. Яны вельмі дарэчы з добрым беларускім півам.

Ёсць што ў Бярэзінскім запаведніку прапанаваць і аматарам больш вострых адчуванняў — паляўнічыя туры з гарантыяй. Паляванне на дзіка, ваўка, казулю, лася пакіне найярчэйшыя ўспаміны на ўсё жыццё. Звычайна любому сучаснаму паляванню спадарожнічае шмат арганізацыйных праблем. Не хвалюйцеся. Усе фармальнасці, звязаныя з правозам паляўнічай зброі і боепрыпасаў, атрыманнем ліцэнзіі на адстрэл, дазволу на вываз трафеяў, бярэ на сябе турыстычная фірма-арганізатар, якая да таго ж гарантуе сустрэчу ў аэрапорце, трансфер, вопытнага гіда-перакладчыка на працягу ўсяго падарожжа, дапамогу егераў, паслугі таксідэрміста. Магчымыя як групавыя, так і індывідуальныя туры.

Вялікае поле дзейнасці, маса найцікавейшай інфармацыі чакае і турыстаў-эколагаў, даследчыкаў прыроды. Тут ім прапануюць прайсці па старажытным шляху "з варагаў у грэкі", некалькі вельмі змястоўных экалагічных маршрутаў. У пэўных месцах абсталяваны спецыяльныя ўкрыцці, адкуль можна назіраць за нязмушаным жыццём насельнікаў запаведніка, праводзіць вельмі цікавую, а часам проста унікальную відэа- і фотаздымку.

Каб быць бліжэй да жывой прыроды, акрамя гатэля, турыстам прапануюць размясціцца ў асобных, так званых паляўнічых доміках (вядома, з усімі сучаснымі зручнасцямі). Як прыемна выйсці на золку за дзверы пакоя і адразу апынуцца сярод птушынага гоману, удыхнуць паветра, настоенае на водары лесу і кветак, павітацца з вавёркай на суседняй сасне, спытацца ў зязюлі наконт перспектыў далейшага жыцця. А ўвечары раскласці на паляне вогнішча і, прыслухоўваючыся да трэску і шолаху цёмнага лесу, уявіць, што ты... цэнтр цэлага Сусвету. Згадзіцеся, рэдкая магчымасць. Не ўпусціце яе!

*Калі вас зацікавяць нашы прапановы, звяртайцеся ў сектар арганізацыі турызму Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь: + (375) 0172 — 22-38-03; 22-39-01, 22-29-78, факс 200-696 ці ў рэдакцыю газеты "Голас Радзімы". Тэл. + (375) 0172 13-31-97, 13-37-82.*



*Паляўнічы домік "Домжарыцкае".*

**ТЭРМІНЫ ПАЛЯВАННЯ:**

**капытныя** — ліпень-снежань;
**пушныя** — лістапад-студзень;
**баравая, балотная, вадаплаўная дзічына, гусь** — сакавік-красавік (веснавое паляванне); жнівень-кастрычнік;
**воўк** — снежань-люты;
**курапатка** — жнівень-кастрычнік.



*Тут пабываў бабёр.*

**ТЭРМІНЫ НАЗІРАННЯ ЗА ЖЫВЁЛАМІ:**

**бобр** — круглы год (гарантавана);
**воўк** — 22—29 жніўня, 23—30 верасня, 21—28 кастрычніка, 21—28 лістапада, 20—27 снежня (усё не гарантавана);
**лось, дзік, казуля** — круглы год;
**глушэц, цецярук** — сакавік-май;
**чорны бусел, шэры гусь, гогаль, баклан, скапа, лебедзь-шыпун, кулік** — у гнездавы перыяд.



*Жыхар запаведніка.*

**НАЙЛЕПШЫ ЧАС ДЛЯ НАЗІРАННЯЎ І ФАТАГРАФАВАННЯ ДЗІКІХ ЖЫВЁЛІН І РАСЛІН:**

**зубр** — круглы год;
**бобр** — верасень-лістапад;
**воўк** — студзень-люты (не гарантавана);
**мядзведзь** — ліпень-жнівень (не гарантавана):
**лось, казуля, дзік, алень** — лістапад-люты;
**казуля** — люты-сакавік;
**розныя віды птушак**, у тым ліку рэдкія: скапа, асаед, чорны бусел, мышалоў, кулік, рабчык, курапатка, дзяцел, ястраб, беркут — у гняздовы перыяд, май-ліпень; глушэц, цецярук — другая палова сакавіка — сярэдзіна мая;
**вальдшнеп** — красавік-май, жнівень-верасень.
**Рэдкія віды раслін** — май-ліпень.



*Комплекс "Плаўна".*

**САНАТОРЫЙ-ПРАФІЛАКТОРЫЙ "БАРАВОЕ"**

***размешчаны ў сасновым бары на беразе маляўнічага возера за 100 кіламетраў ад Мінска ў накірунку да Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Адпачываючыя пражываюць у двухмесных нумарах, нумарах катэгорыі "люкс" з камфартабельнай мэбляй, тэлевізарам, халадзільнікам, тэлефонам. Санаторый прапануе, акрамя лячэння, розныя варыянты актыўнага адпачынку: катанне на лодках і гідравеласіпедах, валейбол, тэніс, рыбалку, прагулкі па шматлікіх грыбных і ягадных мясцінах. Да паслуг гасцей — сауна, салярый, бар, пункт пракату. Жамчужынай санаторыя з'яўляецца бювет з мінеральнай лячэбна-сталовай вадой "Баравая", што прымяняецца для прафілактыкі і лячэння страўнікава-кішачных захворванняў, хвароб печані, парушэнняў абмену рэчываў.***

**Тэл./факс: (+375-02157) 3-32-34; 3-34-58.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 639 экз. Індэкс 63854. Зак. 526.
Падпісана да друку 22.03.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82